# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUSČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Ц а н а : Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

33 (469) — Нядзеля, 6 верасьня 1959 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# Зь неспакоем і трывогай...

### НА МАРГІНЭСЕ ВІЗЫТАЎ МАСКВА-ВАШЫНГТОН

Справа ўзаемных паездак Хрушчова ў Амэрыку і пасьлей Айзэнгаўэра ў Савецкі Саюз ня сходзіць з бачынаў заходняе прэсы й зьяўляецца на сяньняшні дзень цэнтральнай праблемай міжнароднай палітыкі. Гэтая праблема навет засланяе сабой магчыма куды важнейшае пытаньне, як распачацьце чырвоным Кітаем афэнзывы ў кірунку паўдзённа-ўсходняй Азіі й збройны канфлікт з нэўтральнай Індыяй. Дык дзеля асаблівай важнасьці гэтае праблемы варта яшчэ раз вярнуцца да яе на бачынах «Бацькаўшчыны».

Нас тут перадусім цікавяць тры наступныя аспэкты гэтае праблемы: 1. ці ўзаемныя візыты Айзэнгаўэра й Хрушчова спрычыняцца да зьмены курсу амэрыканскай і савецкай палітыкі; 2. які блёк — заходні ці ўсходні зможа дасягнуць большыя карысьці ад гэтых візытаў; 3. якое будуць мець значаньне гэтыя візыты для народаў, паняволеных камунізмам. Дык папарадку й разгледзім коратка ўсе гэтыя пытаньні.

1. На нашую думку, няма ніякіх падставаў прыпушчаць, што паездка Хрушчова ў Вашынгтон і Айзэнгаўэра ў Маскву прынясе нейкія прынцыповыя зьмены ў палітыцы Захаду, перадусім Амэрыкі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу й наагул міжнароднага камунізму і наадварот. Трэба не забывацца, што палітычны канфлікт між Захадам і Ўсходам і ведзеная між імі халодная вайна мае падклад ідэялягічны. Колькі-б разоў Хрушчоў не спатыкаўся зь кіраўнікамі заходніх дзяржаваў, ён у ніякім выпадку не адмовіцца ад ажыцьцяўленьня аснаўной і прынцыповай камуністычнай дактрыны — зьнішчэньня капіталізму й апанаваньне цэлага сьвету, незалежна ад таго, ці гэтае ажыцьцяўленьне будзе праводзіцца пры помачы гарачай ці халоднай вайны. Калі-б, прыкладам, Крэмль адступіў ад гэтай сваей мэты й здаў свае стратэгічныя пазыцыі, дык гэта абазначала-б, што камунізм перастаў быць камунізмам. А такая альтэрнатыва, як ведама, выключаецца.

Вельмі добра гэта разумее прэзыдент Айзэнгаўэр, які на аднэй прэсавай канфэрэнцыі ў Белым Доме станоўча асьветчыў, што ў ніякім выпадку не адступіць ад прынцыпаў, рэалізаваных былым міністрам замежных справаў ЗША Джон Фостэрам Далесам. Таксама адпадае небясьпека, што Амэрыка мае намер дагаварыцца з Савецкім Саюзам панад галовамі й коштам сваіх эўрапэйскіх саюзьнікаў. Аб гэтым найлепей сьветчыць тое, што перад прыездам Хрушчова ў Амэрыку Айзэнгаўэр асабіста адведаў Бон, Лёндан і Парыж, каб узгодніць сваё становішча з найважнейшымі эўрапэйскімі партнэрамі Амэрыкі — Вялікабрытаніяй, Францыяй і Нямеччынай. Такім чынам няма ніякага страху, што Амэрыка скапітулюе перад Савецкім Саюзам і пойдзе на прынцыповыя ўступкі.

Затое адведзіны Вашынгтон-Масква могуць прынесьці часовае й частковае адпружаньне ў халоднай вайне. Ідучы напярэймы публічнай апініі Захаду, якая гэтага адпружаньня жадае й патрабуе, амэрыканскі прэзыдент і наважыўся запрасіць да сябе Хрушчова і даў згоду пазьней яго зрэвізытаваць.

2. Калі-ж ходзіць пра карысьці й шкоды, якія могуць прынесьці гэтыя адведзіны для абодвых бакоў, дык, на нашую думку, тут пазыцыі далёка няроўныя. Калі ўспомненае часовае адпружаньне й заспакаеньне вялікай часьці публічнай апініі ўважаць за зьявішча карыснае для Захаду, дык шкоды, якія могуць прынесьці гэтыя візыты на найвышэйшай узроўні для яго куды большыя. Гэтыя адведзіны бясспрэчна прывядуць да далейшага маральнага й псыхалягічнага раззбраеньня публічнай апініі Захаду, пра што якраз галоўна і ходзіць Хрушчову.

Пры ўсім гэтым адведзіны Хрушчовам Амэрыкі мае і тое адмоўнае маральнае значаньне для вольнага сьвету, што гэта бадай першы ў гісторыі выпадак, калі воляллюбная й дэмакратычная Амэрыка запрасіла да сябе ў госьці дыктатара, пры гэтым дыктатара такога дыяпазону, якім зьяўляецца Хрушчоў.

Затое Масква ад гэтых візытаў ня мае абсалютна ніякіх стратаў, а толькі адныя выйгрышы. Узаемныя адведзіны галоўных прадстаўнікоў дзьвюх варожых і ўзаемна сябе выключаючых сыстэмаў непамерна падымуць аўтарытэт Хрушчова як у сябе дома, гэтак і ў цэлым сьвеце, і ўзмоцняць пазыцыі Савецкага Саюзу, а разам зь ім і міжнароднага камунізму. Гэта пакажа, што Савецкі Саюз і рэпрэзэнтаваная ім таталітарна-камуністычная сыстэма зьяўляецца такой вялікай сілай, зь якой змушаная лічыцца і якую, галоўна, мусіць рэспэктаваць Амэрыка.

З другога боку, часовая перадышка ў халоднай вайне больш патрэбная Савецкаму Саюзу, чымся Амэрыцы. Ведамы амэрыканскі публіцысты Вальтэр Ліпман у «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» між іншым піша: «Саветы прынялі 7-гадовы плян прамысловага разьвіцьця, які ў выпадку вайны быў-бы зруйнаваны, а які зьяўляецца асабліва абцяжаны перагонкай збраеньняў... Што болей, гэтыя цяжары перашкаджаюць Савецкаму Саюзу даваць помач Кітаю, якая зьяўляецца канечнай дзеля падтрыманьня савецка-кітайскага саюзу».

3. Паняволенымі бальшавізмам народамі, у тым ліку й беларускім народам, узаемныя адведзіны Айзэнгаўэра й Хрушчова, якія будуць укаранаваньнем многіх дасюлешніх такіх адведзінаў меншых дзяржаўных мужоў і палітыкаў, бясспрэчна будуць разглядацца, як шуканьне поўнай коэгзыстэнцыі двух сьветаў і як поўная адмова Амэрыкі ад палітыкі вызваленьня.

Паняволеныя бальшавізмам народы ўвесь час ськіроўвалі свае вочы ў бок Амэрыкі, песьцячы надзею, што адтуль можа прыйсьці дапамога ў іхным цяжкім вызвольным змаганьні. Гэтая надзея цяпер можа быць ня поўнасьцяй страчаная, дык прынамся моцна захістаная. Таму мы палітычныя эмігранты ў вольным сьвеце чакаем бліжэйшых падзеяў зь вялікім неспакоем і глыбокай трывогай.

**Язэп Каранеўскі**

# Яшчэ адзін аспэкт русыфікацыі

«У Менску 58 сярэдніх школ. Зь іх толькі 10 — беларускія. Такое палажэньне ня толькі ў Менску, але і ў Гомелі, Брэсьце, Магілеве і іншых гарадох...»

«Міністэрства Асьветы БССР кожны год скарачае колькасьць гадзін на вывучэньне роднай мовы...»

Гэтыя трывожныя галасы — вытрымкі зь лістоў у рэдакцыю газэты «Літаратура і Мастацтва». Такімі лістамі чытачы засыпалі рэдакцыю газэты ў пачатку мінулага году — пасьля таго, як 14-га сьнежаня 57-га году ў ёй быў зьмешчаны артыкул студэнта Сачанкі «Шанаваць родную мову». Варта адзначыць, што аўтарамі лістоў былі ў бальшыні выпадкаў або студэнты вышэйшых навучальных установаў, або настаўнікі. І ў першым і ў другім выпадку — пераважна моладзь.

Ад таго часу прайшло больш за год, і такіх галасоў нельга было больш сустрэць на старонках беларускай савецкай прэсы. Гэта, зразумела, не азначае, што рэдакцыі газэтаў не атрымоўвалі больш лістоў у справе незайздроснага палажэньня беларускай мовы ў гэтак званай «беларускай сувэрэннай дзяржаве» — БССР. Аднак факт застаецца фактам, што такія матар'ялы ў пэрыядычным друку, як правіла больш не зьмяшчаліся.

Мы ведаем, што калі не заўсёды, дык прынамся часта, у вадказ на крытыку з боку чытачоў ці рэдакцыі некаторых зьяваў ці злоўжываньняў, у савецкай прэсе зьяўляюцца заўвагі прыблізна такога зьместу:

«Пасьля праверкі пададзеных у такімсьці нумары газэты фактаў, крытыка выявілася абгрунтаванай. Прынятыя адпаведныя мерапрыемствы з мэтай ліквідацыі адзначаных недахопаў...»

Мы сказалі: Такія заўвагі зьяўлаюцца часта, але не заўсёды. Зьяўляюцца яны тады, і толькі тады, калі бальшавіцкай адміністрацыі выгадна выправіць крытыкаваныя зьявы. І вось — такія красамоўныя факты, як тое, што ў сталіцы Беларусі на 58 сярэдніх школ толькі 10 беларускіх, ці што міністэрства Асьветы БССР кожны год скарачае колькасьць гадзін на вывучэньне мовы — такія, і безьліч іншых фактаў бальшавікі пакідаюць без адказу. Выснаў напрошваецца сам: ўсе бальшавіцкія дэкляраці аб раўнапраўнасьці гэтак званых «сацыялістычных нацыяў», аб «справядлівым вырашэньні нацыянальнага пытаньня» у Савецкім Саюзе, — усе гэтыя цьверджаньні гучаць простым зьдзекам над нацыянальнымі пачуцьцямі беларускага народу, зьдзекам над ягонымі духовымі і культурнымі вартасьцямі.

Аб тым, што бальшавікі і далей ігнаруюць дамаганьні маладое беларускае інтэлігенцыі ў галіне нацыянальнай культуры, добра сьветчыць артыкул студэнта Еду Галайшы пад загалоўкам «За культуру роднай мовы». Артыкул гэты зьявіўся на апошняй старонцы «Літаратура і Мастацтва» зь 19-га жніўня гэтага году. Усё гаворыць за тое, што стымулам да напісаньня гэтага артыкулу было ненармальнае палажэньне ў навучальных установах пасьля прыняцьця закону аб далейшым разьвіцьці народнай асьветы ў БССР. Як ведама, паводля гэтага закону, дзеці і іхныя бацькі маюць права выбіраць, у якой мове — беларускай ці расейскай — павінна праводзіцца навучаньне. Мы ўжо спыняліся на гэтай тэме й паказвалі, што як бацькі, так і дзеці, будучы пад ціскам цэлага шэрагу сьведама створаных бальшавікамі абставінаў — часта будуць прымушаныя выбіраць расейскую мову навучаньня. Артыкул студэнта Галайшы кідае сьвятло і на іншы аспэкт гэтай-жа праблемы. Ува ўмовах бальшавіцкай дыктатуры, мець права выбіраць мову навучаньня — гэта адно, а карыстацца ў практыцы гэтым правам — гэта другое. Возьмем прыклад. На падставе новага закону, вучні выказваюцца за беларускую мову. Што-ж тады выходзіць? Цытуем студэнта Галайшу: «Нам вядомыя выпадкі, калі малады спэцыялісты-пэдагог, на жаданьне вучняў, пачынае выкладаць гісторыю, геаграфію, біялёгію або хімію на беларускай мове, і адразу-ж спатыкаецца. Ён ня можа прытрымлівацца лексыкі адной мовы, захоўваць ейную чысьціню... Яшчэ горш бывае, калі навет спэцыялісты беларускае мовы і літаратуры пры тлумачэньні матарыялу, у гутарцы з вучнямі **гаворыць на нейкім жаргоне...** Цяжкасьці ў рабоце ён адчувае таму, што **не атрымаў належных ведаў роднай мовы, калі вучыўся ў пэдагагічным інстытуце або ў унівэрсытэце».**

Студэнт Галайша не сказаў нічога новага. Усім ведама, што ў вышэйшых навучальных установах «сувэрэннай» БССР беларуская мова цяпер амаль цалкам выціснутая расейскай. Але-ж справа выглядае так ня толькі ў ВНБ — гэткая тэндэнцыя назіраецца і ў сярэдніх школах, асабліва ў гарадох. І вынікі гэтага, як слушна зазначае малады аўтар артыкулу ў «Літаратуры і Мастацтва», пашыраецца на друк, радыё, тэлевізію — на ўсе галіны жыцьця.

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# Камуністычная «прыязьнь»

Камуністычны Кітай няшмат меў сяброў, чаго найлепшым доказам ёсьць тое, што да гэтага часу ён ня прыняты ў Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў. Аднак індыйскі прэм'ер Нэру быў адным зь нешматлікіх ягоных прыяцеляў. Нэру — у мынулым апостал палітыкі цеснага супрацоўніцтва з камунізмам, фанатык нэўтралізму, заўсёды дамагаўся прызнаньня рэжыму Мао Тсэ-тунга, прыняцьця ягоных прадстаўнікоў у Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў; поруч з Чу Энь- ляем, ён быў аўтарам Панчашыла. Нэру не перашкаджаў пашыраньню камуністычнай экспансіі ў паўдзённа-ўсходняй Азіі. Нават да здушэньня тыбэцкага паўстаньня Нэру падыйшоў вельмі нявыразна: быццам-бы спачуваў тыбэццам, даў прытулак Даляй Ляме, але і не асудзіў Кітайцаў. Нават і ў гэтым выпадку, калі хваля камуністычнай агрэсыўнай экспансіі дакацілася да ягоных межаў, Нэру — фанатычны апостал нэўтралізму — хаваў галаву ў пясок: баяўся бачыць і прызнацца да правалу свае палітыкі.

Усё-ж хаваньне галавы ў пясок нікога ня выратавала, [illegible] і Нэру.

Ужо ад пэўнага часу Мао пачаў псыхалягічную, або лепш, картаграфічную вайну супраць Індыі: на сьвежа-выдадзеных кітайскіх мапах некаторыя індыйскія правінцыі былі далучаныя да камуністычнага Кітаю. Нэру з праўдзівым супакоем будыйскага стоіка сьцярпеў гэтую папяровую агрэсію. Але папяровай агрэсіяй Мао не задаволіўся, і кітайскае войска ўвайшло ў межы Індыі. Сяньня ў некаторых раёнах паўночна-ўсходняй Індыі адбываюцца збройныя сутычкы паміж Гіндусамі і Кітайцамі. Такім чынам урэшце Нэру на уласнай скуры адчуў агрэсыўнасьць сваіх прыяцеляў-камуністых. Якое-ж мусіць быць прыкрае расчараваньне апостала нэўтралізму!..

Цяжка сказаць, ці Мао пачне праўдзівую вайну ў шырокім маштабе, ці справа скончыцца на пагранічных авантурах. Усё-ж адно пэўнае, гэта тое, што Кітайцы забіваюць Гіндусаў, а Нэру ў сілу абставінаў і супраць ягонай волі будзе змушаны перагледзіць свае дачыненьні да Кітаю і да камунізму наагул.

Прычына гэтай агрэсіі моцна заінтрыгавала вольны сьвет і нялёгка ейнае вытлумачэньне. Ці гэта яшчэ адзін хрушчоўскі акампаньямэнт да ягонага дуэту з Айзэнгаўэрам, ці гэта сталася бяз згоды, а можа нават і супраць волі Хрушчова?

Бо трэба сьцьвердзіць, што Мао ставіць Мікіту ў прыкрае палажэньне. Дуэт на «супэрвярхох» будзе адбывацца паміж прадстаўнікамі двух блёкаў: заходнята і камуністычнага. Таму Хрушчову, як прадстаўніку камуністычнага блёку, нялёгка будзе апраўдаць тры факты агрэсіі гэтага блёку, якія мелі месца падчас пару месяцаў: Тыбэт, Ляос і Індыю.

Праўда, Айзэнгаўэр мог-бы прыгадаць дзесяткі даўнейшых. Праўда і тое, што Хрушчоў не капаецца як сьляпы ў торбе, шукаючы словаў і аргумэнтаў, але меле языком, што яму сьліна на язык прынясе, ня вельмі турбуючыся, ці гэта згоднае з праўдай і фактамі. Аднак тут Хрушчоў будзе гаварыць ня ў Курску, Тыране, ці нават у гэтай самай Індыі, але ў Амэрыцы і перад Арганізацыяй Аб'еднаных Нацыяў — хоцькі ня хоцькі трэба будзе быць карэктным і ня кідаць мякіну пустаслоўя на вецер. Няўжо-ж Хрушчоў думае, што амэрыканскія джэнтэльмэны і сябры АЗН праз ветлівасьць ня будуць ставіць яму няпрыемныя пытаньні? Гэта вельмі мала праўдападобнае...

Якія-б ня былі прычыны і гэнэза гэтай новай кітайскай агрэсіі, мы з задаваленьнем можам сьцьвердзіць, што яна ня спрычыніцца да павялічэньня аўтарытэту і прыхільнікаў камунізму ў сьвеце, а перадусім у Азіі. Толькі ці гэтую «няўвязку» здолеюць выкарыстаць заходнія дыпляматы — гэта іншая справа...

Варта адцеміць яшчэ адзін цікавы факт: У Лёндане Айзэнгаўэр прыняў сятру Нэру, якая зьяўляецца Высокім Камісарам і амбасадарам Індыі ў Англіі. Гэтая сустрэча ня была ў пляне візыты Айзэнгаўэра і адбылася зь ініцыятывы Індыі. Вельмі праўдападобна, што калі яму загарэлася пад нагамі зямля, Нэру шукае ратунку ад сваіх «прыяцеляў» у Амэрыцы. Тут-бы спраўджалася прыказка: «Ня плюй у ваду, бо няведама, ці не давядзецца яе піць..»

Заходнія дыпляматы маюць добрыя нагоды. Дай, Божа, каб іх выкарысталі...

# Шкодны ўказ

Другога жніўня сёлета ў прэсе быў апублікаваны ўказ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР «аб забароне трыманьня жывёлы ў асабістай уласнасьці грамадзян, якія жывуць у гарадох і рабочых пасёлках». Згодна гэтага ўказу, зь 1-га кастрычніка г. г. забараняецца працоўным Беларусі трымаць прадукцыйную й рабочую жывёлу ў абласных гарадох і вакольных вёсках. У парушальнікаў гэтага ўказу жывёла будзе прымусова адбірацца з выплатай яе кошту па цэнах, якія існавалі да 1958 году для калгасьнікаў пры здачы абавязковых паставак мяса.

Афіцыйнымі прычынамі такога ўказу зьяўляецца тое, што ўлады прыйшлі да высновы «паканчыць» з прымітыўным вядзеньнем жывёлагадоўлі насельніцтвам гарадоў і вакольных населеных пунктаў. Апрача таго, як адзначае ўказ, жывёлай зьнішчаецца шмат хлеба й іншых харчовых прадуктаў зь дзяржаўных фондаў, а дагляд жывёлы адцягвае рабочую сілу з прадпрыемстваў. Жывёла стварае антысанітарныя ўмовы ў гарадох.

У сувязі з выданьнем указу партыйная прапаганда разгарнула шырокую кампанію, даводзячы, што ажыцьцяўленьне ўказу прынясе народу вялікую карысьць. Так у газэце «Зьвязда» з 11 жніўня г. г. у перадаавым артыкуле пад шумным загалоўкам «Для цябе, працаўнік!» разам зь іншым, прапагандовым шалупеньнем газэта глумліва намагаецца пераканаць народ, што ўказ ураду БССР паслужыць інтарэсам народу. Больш таго, у артыкуле паведамляецца, што працоўныя масы ў сваіх лі-

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# Моладзь з ЗБМА на фэстывалі Гэнры Гадсона ў Нью Ерку

У 1609 г. капітан галяндзкага гандлёвага карабля Ангелец Гэнры Гадсан, шукаючы дарогі ў Кітай, прыблудзіў у раку Паўночнае Амэрыкі, што носіць цяпер ягонае ймя. Рака Гадсан абмывае заходні бок абтоку Мангэтэн, забудаванага цяпер небасягамі й залітага вечарамі мігатлівым сьвятлом рэклямаў. Места Нью Ёрк вядзе свой летапіс ад запісное кнігі капітана Гадсана, і сёлета сьвяткуе 350-я ўгодкі. Сьвяткаваньне, названае фэстывалем Гэнры Гадсана, адбываецца на працягу ўсяго летняга сэзону, складаецца галоўна з канцэртных выступленьняў ды мае калярытны міжнацыянальны характар.

Канцэрты — народнага й клясычнага мастацтва — адбываюцца ў ньюёркаўскім Цэнтральным Парку, на сцэне вялікага амфітэатру. Гэта запраўдны конкурс, у якім бяруць удзел дзясяткі нацыянальнасьцяў, што за тры з палавінаю стагодзьдзі гісторыі места знайшлі сабе тут надзейнае прыпынішча.

У нядзелю 23 жнівеня ў ньюёркаўскім Цэнтральным Парку прагучэлі й беларускія танцавальныя ды песенныя мэлёдыі, рэпрэзэнтаваныя групаю моладзі мясцовага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі.

У кажнаразовым канцэрце бяруць удзел па некалькі нацыянальнасьцяў, што дабіраюцца паводля геаграфічнага прынцыпу. Беларускі выступ быў залічаны ў Паўночна-эўрапейскую праграму. Беларусы выступалі разам з Эстонцамі, Латышамі й Летувісамі. Беларуская праграма складалася з народных танцаў, песьняў і музыкі, менш-больш, як і праграмы нашых балтыцкіх суседзяў. У Цэнтральным Парку пагоднымі днямі бывае шмат народу, і на канцэрт, што пачаўся а 3-й гадзіне папаўдні зыбралася больш за тысячу гледачоў. Гукавая рэпрадукцыя была дасканальная, дык шмат хто слухаў таксама музыку, прагульваючыся па дарожках парку.

Вакол круглае сцэны расстаўленыя нацыянальныя сьцягі: амэрыканскі, беларускі, літоўскі й эстонскі. Праз сцэну, із супрацьлежных канцоў, праходзяць да сваіх сьцягоў нацыянальныя прадстаўнікі па аднэй пары ў народных касьцюмах. Беларуская пара: танцоры Поля Груцько й Аркадзь Каваль. Калі ўсе сьцягі абстаўленыя, выконваецца амэрыканскі гімн, і канцэрт пачынаецца.

Як на сцэну выйшаў кіраўнік канцэрту, містэр Ўолтэр Бакад прысутныя сярод публікі беларускія гледачы былі вельмі прыемна зьдзіўленыя, пабачыўшы яго ў беларускай народнай вопратцы. Адкрываючы канцэрт, сп. Бакад сказаў, што рэпрэзэнтаваныя на канцэрце беларускі й балтыцкія народы — гэта народы самабытныя, якія маюць сваю багатую культуру, мелі сваю дзяржаўную незалежнасьць ды, трэба спадзявацца, гэтую незалежнасьць здабудуць ізноў.

Канцэрт прайшоў надзвычайна ўдала Беларуская група выступала ў канцы праграмы. Шэсьць параў бадзёрых танцораў, пад вясёлыя гукі акардыёну сп. Лявона Рудзінскага, выканалі тры народныя танцы: крыжачок, мікіту й таўкачыкі. Танцавалі: Ала Орса (кіраўнічка танцавальнага гуртка), Оля Мельяновіч, Поля Груцько, Ніна Каваль, Эрыка Александровіч, Рая Станкевіч, Аркадзь



**Народны танец «Крыжачок» у выкананьні танцавальнага гуртка ньюёркаўскага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі на фэстывалі Гэнры Гадсана ў Нью-Ёрку 23 жнівеня 1959 г., дзе Беларусы здабылі першае месца.**

**Фота Язэпа Пазьняка**

Каваль, Анатоль і Мікалай Александровічы, Аўген Лысюк, Кастусь Верабаей, Вячеслаў Станкевіч. Беларускую песьню рэпрэнзэнтавала маладая таленавітая сьпявачка Клава Ярашэвіч выкананьнем народнае «Лявоніхі» і рамански «Васілёчкі» словы Міхася Кавыля, музыка Міколы Куліковіча. Да прыгаства песьняў шмат дадаваў акампаніятар акардыяністы-віртуоз Лявон Рудзінскі. Ён-жа выступіў у салёвым нумары з варыяцыямі на тэму полькі «Янкі».

Беларуская праграма была выкананая з гэткім запалам і пачуцьцём, што ўзнагарода вечару, Artur Murray Trophy — пазалочаная статуэтка пары танцораў на мармаравай падстаўцы — дасталася Беларусам пад агульную апрабату гледачоў. Прыемная неспадзеўка была тым большая, што ніхто не чакаў прысуджэньня ўзнагароды. Прыз даручылі ў прысутнасьці ўсіх удзельнікаў канцэрту на сцэне амфітэатру. Зусім спантанічна, із статуэткай у руцэ, Ала Орса падала руку свайму партнэру, і ўся беларуская група абыйшла кругам па сцэне амфітэатру, яшчэ раз паказваючы незраўнае хараство народнае вопраткі ды шчасьлівымі ўсьмешкамі выказываючы ўдзячнасьць за прызнаньне й цёплае прыймо.

Выступленьне беларускае групы на фэстывалі Гэнры Гадсана было зарганізаванае, дзякуючы стараньням сябры Аўгена Несьцяровіча, які зьяўляецца сталым прадстаўніком ад Беларусаў у ньёркаўскай Радзе Народных Мастацтваў.

**Я. Запруднік**

# Вечар у чэсьць праф. Ант. Адамовіча

Выкарыстоўваючы часовы побыт праф. Антона Адамовіча ў Мюнхэне, куды ён спэцыяльна прыяжджаў зь Нью Ёрку для ўдзелу ў навуковай канфэрэнцыі і гадавой асамблеі Інстытуту Вывучэньня СССР, Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» наладзіла 1-жа жніўня вечар, прысьвечаны 50-ай гадавіне ягонага нараджэньня (радзіўся 26 чэрвеня 1909 году ў Менску).

Вечар у прысутнасьці бадай усей мюнхэнскай беларускай калёніі адкрыў кароткім уступным словам сп. С. Кабыш, які ад імя прысутных прывітаў праф. Адамовіча зь ягоным юбілеем, пажадаў яму памыснасьці ў ягоным асабістым жыцьці й такіх-жа выдатных, як і дагэтуль, посьпехаў у ягонай нацыянальна-грамадзкай, літаратурнай і навуковай дзейнасьці ў наступным пяцідзесяцігодзьдзі ды, напасьледак, перадаў слова юбіляру дзеля дакладу на тэму «1909 год у гісторыі беларускага адраджэнства».

У сваім глыбока абдуманым і старанна апрацаваным дакладзе праф. Адамовіч высунуў тэзу, што якраз 1909 год зьяўляецца пераломнай датай у беларускай адраджэнскай літаратуры й беларускім адраджэнскім руху наагул. Да гэтага часу канцэпцыя беларускага адраджэнізму была яшчэ вузкай і няпоўнай, бо зводзілася фактычна толькі да патрабаваньня вызнаньня за беларускім народам ягонае людзкае годнасьці ды палепшаньня ягонага сацыяльнага палажэньня. Пачынаючы ад 1909 году, адраджэнская ідэя абыймае ўжо й патрабаваньне ўзвышэньня беларускага народу да агульналюдзкай узроўні ў галіне духовага й культурнага разьвіцьця ды да вызнаньня ягонай нацыянальнай поўнацэннасьці.

Гэтыя новыя ідэі запачаткаваў у гэным 1909 годзе Сяргей Палуян і галоўна Максім Багдановіч, робячы ў гэтым кірунку вялікі ўплыў і на агульна вызнаных ужо духовых правадыроў беларускага народу — Янку Купалу й Якуба Коласа. Гэты цікавы й з кажнага гледзішча арыгінальны даклад будзе пазьней надрукаваны ў «Бацькаўшчыне».

Пасьля дакладу ў гарачых словах вітаў юбіляра ад імя газэты й Выдавецтва «Бацькаўшчына» др. Ст. Станкевіч, пасьля чаго сп. П. Сыч ад імя «Бацькаўшчыны» перадаў праф. Адамовічу сьціплы падарак — залатую бранзалетку да залатога гадзіньніка, падараванага раней юбіляру беларускай ньюёркаўскай калёніяй.

Пасьля агульнага адсьпяваньня ў чэсьць юбіляра «Сто год», прамаўлялі сп. сп. Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык, кс. П. Татарыновіч, кс. Ул. Салавей, Б. Вербіч, паэта Р. Казак і іншыя. Напасьледак праф. Адамовіч падзякаваў за прыязныя зычэньні й запэўніў, што ён і ў далейшым будзе ўсяцэла аддаваць свае здольнасьці й энэргію для працы на беларускай нацыянальнай ніве.

Урачыстасьць закончылася супольнай вячэрай, якая, як і першая афіцыяльная частка, прайшла ў прыемным і бадзёрым настроі.

**Ст. Ст.**

# Айцец Маскалік Доктарам Філялёгіі

30-га ліпеня сёлета ў нямецкім унівэрсытэце ў Мюнхэне адбылася інаўгурацыя ведамага беларускага каталіцкага сьвятара ўсходняга абраду Міхася Маскаліка на доктара славянскае філялёгіі.

Айцец д-р Маскалік яшчэ з раньняй маладосьці прымаў актыўны ўдзел у беларускай культурнай і грамадзкай дзейнасьці й заўсёды вызначаўся працавітасьцю й вытрываласьцю ў імкненьнях да пастаўленае перад сабою мэты.

Скончыўшы ў 1924 годзе Беларускую гімназыю ў Несьвіжы, ён паступае ў Віленскі Ўнівэрсытэт, на якім студыюе фізыку й матэматыку. Будучы студэнтам, ён дзейна працуе ў Беларускім Студэнцкім Саюзе, а так-жа актыўны прыймае ўдзел ў Беларускім Аб'ездным Тэатры Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры, як здольны артысты. У 1932 годзе ён выяжджае ў Бэрлін, дзе студыюе на тэхнічнай вышэйшай школе. Пасьлей паступае на філязафічна-тэалягічны факультэт мюнхэнскага ўнівэрсытэту і пасля яго сканчэньня высьвячаецца ў 1938 годзе на сьвятара. Пасьля гэтага вяртаецца ў Вільню і тут вядзе душпастырскую дзейнасьць у касьцеле сьв. Андрэя.

З пачаткам вайны выяжджае ўзноў у Нямеччыну дзеля душпастырскай працы сярод Беларусаў і Ўкраінцаў Мюнхэну і працуе галоўным чынам сярод ваеннапалонных Беларусаў і Ўкраінцаў польскае арміі.

У 1941 годзе на раду праф. Э. Кашмідара пачынае пад ягоным кіраўніцтвам студыяваць славянскую філялёгію на мюнхэнскім унівэрсытэце. Але ў 1943 годзе яго арыштоўвае гэстапо й высылае ў канцэнтрацыйны лягер у Захсэнгаўзэн.

Пасьля вайны вядзе душпастырскую працу сярод Беларусаў і Ўкраінцаў у Нямеччыне. У 1945 годзе дастае ад Ватыкану намінацыю на дзекана для Ўкраінцаў, а ў наступным годзе для Беларусаў і назначаецца спэцыяльным рэфэрэнтам для Беларусаў каталікоў на ўсю Нямеччыну. На гэтым становішчы ён астаецца і да сяньня.



**Айцец Др. М. Маскалік**

Атрымаўшы адшкадаваньне за канцэнтрацыйны лягер, ён у 1956 годзе ўзнаўляе свае студыі, якія й канчае прамоцыяй на навуковыю ступень доктара славянскае філялёгіі. Доктарскую дысартацыю ён напісаў на Беларускую тэму «Народны элемэнт у творчасьці Янкі Купалы».

У нядзелю 2-га жніўня з нагоды атрыманьня дактарату беларуская калёнія Мюнхэну спаткалася з а. д-р Маскалікам на супольнай вячэры, якая адбылася ў нязвычайна прыемным, прыяцельскім і патрыятычным настроі.

З нагоўы атрыманьня дактарату а. д-р Маскалік ахвяраваў на выдавецкія справы «Бацькаўшчыны» 100 нямецкіх марак, за што на гэтым месцы выражаем яму шчырую падзяку й жадаем далейшае плоднае працы на беларускай рэлігійнай і нацыянальнай ніве.

шэньніка — гл. Інбелкультаўскае выданьне, том II, б. б. XXXVII—XXXVIII), як стараўся даць рады гэтаму сам паэта, ня толькі ўдзячна прыймаючы, але й просячы паправак свае мовы. Нат тыя папраўкі «Нашае Нівы», што парушалі, скажам, рымаваньне вершу, прыймаліся ім, калі вялі да ачышчэньня мовы з гледзішча беларускасьці, і некаторыя з гэткіх паправак пакінулі нечапанымі й мы (як, прыкл., у раньнім вершы «На чужыне», у першай строфе, або ў вершы «Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог», у «Вянку», разьдзел «Вольныя думы», у 7 радку), перарэдагоўваючы ў бок большага вытрымваньня рымаваньня адно там, дзе відавочны быў залішні пэдантызм рэдактараў (як, прыкл., у раньнім вершы «Над магілай», дзе «нудзьгу» было выпраўлена на «нуду» як, хіба, украінізм, у шчырым сэньнсе гэткім ня будучы) або проста непаразуменьне (як, прыкл., у вершы «Дождж у полі і холад», дзе слова «начой» было прачытанае за «начной» ды выпраўленае на «начны» з парушэньнем рымаваньня). Не заходзячы так далёка каб парушаць рымаваньне ці іншыя бакі паэтыкі, мы не вагаліся аднак, маючы на воку «падручнасьць», а ня сьціслую (ды пагатоў, не пэдантычную) акадэмічнасьць нашага выданьня, рабіць моўныя папраўкі там, дзе яны, не парушаючы нічога ў вершы, толькі спрычыняліся да ўдасканальненьня беларускасьці мовы. Запраўды, ці-ж недаравальным пэдантызмам для «падручнае кнігі», было-б пакідаць у ёй якія-небудзь «вынулі», «ядынае», «аб шыраце духоўнай», «калісь-то», «мацярэй», «усьніце» й пад., калі выпраўленьне іх на нармальна-беларускія «вынялі», «адзінае», «аб шырыні духовай», «калісьці», «мацярок», «засьнеце» (апошняе, дарэчы, у вадным выпадку было зробленае яшчэ «Нашай Ніваю» хоцьбы напалавіну) ані не адбіваецца зь ніякага боку на самым вершы, ягоным гучэньні, вобразнасьці й стылі, ня кажучы ўжо пра сэнс? Папраўкі гэтага тыпу, мы прост пэўныя, прыняў-бы й сам паэта, а нат мо й сам падобныя парабіў-бы, каб толькі жыў, бо ўсьцяж дасканальніўся й прагрэсаваў у кірунку чысьціні беларускасьці свае мовы.

Кажнаму-ж факту такога дасканальненьня-прагрэсу ў паэтычнай мове мы стараліся надаць, казаў той, «адваротнае сілы», пашыраючы яго на мову ранейшых ягоных твораў (як, прыкл., форме «сьцень» заміж «цень», або «кветы» заміж «цьвяты», якіх трымаўся паэта ў пазьнейшых сваіх творах*)).

Чыста ўжо мэханічнаю й запраўды санмазразумелаю справаю для «падручнага выданьня» было для нас бязумоўнае вытрыманьне сучаснага правапісу, прынятага ў выданьнях нашага выдавецтва. Інбелкультаўскае выданьне ў гэтым дачыненьні было надзвычай некансэквэнтным, часам захоўваючы бяз усякае відавочнае прычыны адны, казаў той, «дапатопныя» напісаньні пры ўсучасьненьні іншых таго-ж тыпу — «чэрты» пры «чарвяк», «калышэць» пры «калыша», «асьцюжэныя» пры «напружана», нат «меж» пры паўсюдным «між»... Нат тады, калі гэта матывавалася «вымаганьнямі рымаваньня», ня было яно найчасьцей ані апраўдальным, ані, ізноў-жа, кансэквэнтным. Гэтак, захоўваць поўную ідэнтычнасьць на пісьме панаціскных гукаў у рымах ня было ніякае патрэбы ані з гледзішча беларускае літаратуры, ані з гледзішча практыкі беларускага вершаваньня нат у самога Багдановіча. Гэтак, прыкл., выглядала захаваньне напісаньня «далёкам» дзеля рымы із «змрокам», калі ў самога паэты можна знайсьці гэткія рымы як «Богам — убогім», «нячыстым — маністам», «разьбітымі — ракітамі», «палянах — парваных», «мілых — магілах» і пад., або «жаданьня» (у множным ліку) дзеля рымы з «каханьня», калі скрозь знойдуцца і «мучэньня — каменьні», «рушэньне — хаценьні», «расстаньне — каханьні», «пытаньне — чаканьні», «натхненьню — уражэньне» ды нат «цярпеньнем — каменьняў» — і гэта нат у вершы «Песьняру», дзе падчырквaецца важнасьць шліфаваньня-«абрабленьня» вершу... Або яшчэ асабліва часты прыклад — захаваньне формаў «сьмеха — рэха», «гноя — хвоя», «ладана — неразгадана», «сьпева — дрэва», «пазалота — дрота», «сувора — вузора» пры Багдановічавых-жа «нітка — ужытку», «болю — поле», «душою — мускоe», «начное — пакоі» і г. д. і г. д. Заміж гэткага мітычнага, пэдантычнага дый некансэквэнтнага «выраўнаваньня» мы ўсюдых трымалі нязьменнае раўнаваньне на правапіс. Каб скончыць зь ім, зазначым адно, што, пэўна-ж відавочныя апіскі намі выпраўляліся, асабліва ў іншамоўных собскіх назовах, як, прыкл., «Танай», ці «Данай» заміж «Даўн» у перакладзе Гарацыевага «Памятніка» (як паказана яшчэ Ю. Дрэйзінам у «Ўзвышшы», № 2 за 1928 г.), або «Бахіль» заміж «Батыль» (як паказана ў Інбелкультаўскіх «Увагах» да перакладу з Вэрлена «Млоснасьць», т. I, б. 478 — але чамусьці ня выпраўлена).

Застаецца яшчэ спыніцца крыху на нашым рэдагаваньні ўжо не самых тэкстаў, а іхных, казаў той, апраўаў — загалоўкаў, эпіграфаў, датаў. Як ведама, бальшына Багдановічавых вершаў без загалоўкаў, пад зорачкамі, часам у выніку адкіданьня іх некім ці нeяк, як гэта можна бачыць з рукапісаў. Таму, што загалоўкі заўсёды выйгрышнейшыя для «падручнага выданьня», мы імкнуліся як мага захоўваць ці нат аднаўляць іх. Гэткае паходжаньне маюць у нас загалоўкі «За газэтай» (адноўленыя з рукапісу ўжо ў Інбелкультаўскім выданьні, але чамусь ізноў выкінуты ў менскім апошнім), «Магіла ў полі», «Sine ira», «Сантымэнтальная гутарка», «Маёвая песьня». Некаторыя загалоўкі давялося перарэдагаваць крыху, часам згодна з апошняй воляй самога аўтара (як «Элегічныя дыстыкі» заміж ранейшага «Пэнтамэтры», пакінутага намі ў якасьці падзагалоўку й у двукосьсі), часам дзеля патрэбы выпраўленьня недакладнасьці, ато й памылкі (як у «Песьні пра князя Ізяслава», дзе адкінута «Полацкага», бо ён княжыў ня ў Полацку, а ў Гародні, як гэта й было ў зацемцы пры першадруку вершу, або ў «Лісьце да Вацлава Ластоўскага», дзе апошняе менскае выданьне адкінула ня толькі ймя, але нат і прозьвішча «крамольнага» Багдановічавага адрасата, або ў вершы «Слуцкія ткальлі», дзе няправільна ўжытыя «ткачыхі» былі папраўленыя яшчэ ў чытанцы «Родны край» Л. Гарэцкае). Толькі ў пары выпадкаў выдалася дамэтным даць свае новыя загалоўкі заміж зорачак (верш «Гэкзамэтры», хрэстаматыйны празаічны ўрывак «Вёсачка»). Таксама і ў падгалоўках часам выконвалася воля аўтара («Танкі» да «Японскія», «Кастыльскія» да «Гішпанскія»), часам дамэтнасьць даць новы паясьняльны падзагаловак (у эпіграмах «Sine ira»).

**(Далей будзе)**

